BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.,
166 — 34 Gothic Drive, Jamaica, N. Y. 11432.
Subscription $ 6.00 yearly.

„БЕЛАРУС" —Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
Выпіска зь перасылкаю — 6 дал. на год.

# АРХІЯПІСКАП ВАСІЛЬ

Першыя паваенныя гады (1945-49) былі найбольш вырашальнымі для беларускае эміграцыі, якія вызначылі будучыню нашых суродзічаў, раськінутых па ўсім сьвеце. Гэта быў пэрыяд выпрабаваньня арганізацыйнае нашае здольнасьці й палітычнае ды грамадзкае дасьпеласьці.

Галоўнымі прэрэгатывамі дзеля самазахаваньня часткі народу, адарванае ад роднага краю — захаваньне свае рэлігіі й нацыянальных традыцыяў. Старэйшыя за нашую эміграцыі іншых народаў вельмі добра ведалі гэта, таму стараліся ў свой час арганізаваць свае цэрквы й пры іх гуртаваць сваіх людзей. У гэткіх абставінах людзі, што апыніліся ў чужым краі, менш адчувалі страту свае бацькаўшчыны. Нацыянальна сьведамая частка гэнае эміграцыі — герархія, сьвятары й грамадзкія дзеячы ўзгадоўвалі ў нацыянальна-рэлігійным духу новае пакаленьне ў новай краіне ды ў новых абставінах.

Расейцы добра ведалі, што царква адыгрывае вялікую ролю сярод эміграцыі. Яны ведалі й тое, што хто кіруе царквой, той уладае народам. Вось чаму, каб узяць пад сваю духовую ўладу наш народ, яны павялі акцыю дзеля зьліквіданьня нашае Царквы. Расейцам вельмі лёгка ўдалося нагаварыць герархаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, што пасьля вайны апыніліся на эміграцыі ў Нямеччыне. Як сам Мітрапаліт Панцелейман (Расеяц), гэтак і рэшта япіскапаў БАПЦ былі прарасейцамі зь перакананьня, таму яны й пастанавілі далучыцца да Расейскае Зарубежнае Царквы. Акт пераходу герархаў БАПЦ да Расейскае Зарубежнае Царквы быў афіцыйна аформлены 23 лютага 1946 году, і таго-ж самага дня адбыўся распадзел становішчаў япіскапаў, што перайшлі да Расейцаў.

Аднак нацыянальна сьведамыя вернікі БАПЦ не пайшлі за япіскапамі перабежчыкамі, а пачалі шукаць спосабаў, каб выратаваць Царкву ад расейскага захопу. На просьбу праваслаўных Беларусаў Украінская Аўтакефальная Праваслаўная Царква на чале зь Мітрапалітам Палікарпам прыйшла з дапамогай, вызначаючы Япіскапа Сяргея апякуном асірацелай БАПЦ. Але галоўным імкненьнем праваслаўнае беларускае эміграцыі было якраз тое, каб аднавіць сваю аўтакефальную Царкву із сваёй беларускай герархіяй. Найлепшым кандыдатам на Япіскапа БАПЦ аказаўся інж. Уладзімер Тамашчык.

Інж. Ул. Тамашчык быў сьведамы таго, што япіскапскі сан не прарочыў яму лёгкага й раскошнага жыцьця. Але ягоная нацыянальная сьведамасьць ды вялікая любоў да свайго паняволенага народу падзеілі на яго. Ён выракся ўсіх дабрадзействаў жыцьця, якія суліў яму сьвецкі стан, і стаў на шлях манаха й самапасьвячэньня Богу й свайму народу.

Калі яшчэ ў часе захадаў дзеля аднаўленьня БАПЦ Расейцы вялі прапаганду супраць гэтак званых сэпаратыстых Крывічоў, тады яны яшчэ ня верылі, што Беларусы змогуць аднавіць сваю Царкву. Затое пасьля хіратоніі Васіля ў сан Япіскапа, былыя герархі БАПЦ, хіба-ж, на загад Расейцаў, проста засыпалі пратэстацыйнымі адозвамі, пасланьнямі ды лістамі ў вадпаведныя ўстановы акупацыйных уладаў Нямеччыны. Усё гэта было накіраванае на тое, каб маною й няправільным насьвятленьнем падзеяў выклікаць у Беларусаў недавер да свайго Архірэя й адноўленай БАПЦ. Прыпісвалі БАПЦ некананічнасьць, што яна апанаваная вуніятамі, што яна зарганізаваная Крывічамі левага кірунку, чуць не камуністымі, а самога Уладыку называлі камуністым („Прав. Русь", № 1, 1950, бач. 11). Архірэйскі Сынод Расейскае Зарубежнае Царквы на сваім чародным паседжаньні 9 лютага 1950 г. вынес пастанову ці г. зв. суд, што да БАПЦ і Ўладыкі Васіля.

І нашыя груповыя праціўнікі не пакінулі ў спакоі Архіяпіскапа Васіля да самае ягонае сьмерці, а БАПЦ — і да сяньня.

Дзейнасьць Архіяпіскапа Васіля была больш чымся вялікая для БАПЦ, калі ўзяць увагу на абставіны, у якіх даводзілася яму працаваць. У гэным часе, калі была пушчаная машынэрыя ілжы на яго й на БАПЦ, ён пачаў сваё япіскапства з голымі рукамі й зь нічога. Ён ня меў асноўнага забясьпечаньня жыцьцёвага ўтрыманьня, ня кажучы ўжо пра аблачэньне, кнігі й шмат чаго іншага. Гэта не абазначала, што людзі не хацелі ўсяго гэтага даць, але, як і Ўладыка Васіль, гэтак і людзі нічога ня мелі, а былі на ласцы акупацыйных уладаў і Немцаў.

Сама арганізацыя Царквы ў адміністрацыйную адзінку вымагала даволі энэргіі й працы, бо ўсё трэба было пачынаць ад пачатку. Зразумела, што пры навале працы аднэй асобе цяжка было спраўляцца із сваймі абавязкамі. З гэтае прычыны былі нараканьні на Архіяпіскапа Васіля й ад ягоных вернікаў, але нараканьні гэтыя выходзілі зь несьвядомасьці самых абставінаў, у якіх Уладыка працаваў.

Уладыка Васіль, як чалавек, быў ідэялістым і да канца свайго жыцьця аптымістым. Паводля ягоных меркаваньняў дробныя справы ня мелі ніякае вагі, і часта яму было незразумелым, чаму людзі займаюцца імі. Ён асабліва быў захоплены ідэяй маральнай філязофіі, самапасьвячэньня Богу й народу.

Дня 9 чырвеня 1970 году скончылася жыцьцё Архіяпіскапа Васіля, але ён, як ясная зорка, слуга Божы Сьвятое Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, і надалей нам сьвеціць. Сьв. пам. Архіяпіскап Васіль увайшоў у гісторыю нашага народу, як адзін з найвялікшых патрыётаў, змагар за незалежную Беларускую Праваслаўную Царкву, змагар за духовае вызваленьне ўсяго беларускага народу, змагар за незалежнасьць Беларусі. Уладыка Васіль быў увасабленьнем найвялікшага волата-змагара беларускага народу ў наш час.

**Грыбок**

*ПРАБЛЕМЫ БЕЛАРУСКАГА ЎЗГАДАВАНЬНЯ*

# ПАТРЭБНЫЯ АДПАВЕДНЫЯ ЎСТАНОВЫ

У нумары 161-ым „Беларуса" ў артыкуле „Праблемы беларускага ўзгадаваньня" прапануецца грамадзтву выказаць свае пагляды на гэтую тэму. Я ахвотна скарыстаю з гэтае прапановы й выкажу свае думкі ў гэтай справе.

Калі параўнаць дзейнасьць нашае эміграцыі ў пэрспэктыве часу ад пачатку яе арганізацыйнага жыцьця ў Нямеччыне, яе шчырага патрыятызму, адданасьці грамадзкай працы й вынікаў гэтае працы зь сяньняшнім патухаючым патрыятызмам і грамадзкай працай, якая выражаецца пераважна ў адзначаньні нацыянальнага сьвята 25 Сакавіка, дык становіцца ясным, што нашая эміграцыя паступова ўмірае, не падрыхтаваўшы сабе зьмены.

Прыехаў я ў ЗША толькі вясною 1956 году, у Каліфорнію. Мяне цікавіла арганізацыя школьніцтва нашых з дому суседзяў — Расейцаў і Украінцаў. Я аглядаў пры цэрквах асобныя будынкі, у якіх былі ўладжаныя, адпаведна ўмэбляваныя пакоі-клясы. Вучыліся ў іх на роднай мове дзеці прыхаджан. Былі гэта Царкоўна-прыходзкія школы, у Расейцаў сяміклясовая, а Украінцаў — чатырохклясовая. Настаўнікамі ў іх былі сьвецкія, а навет і духоўныя асобы. Царкоўныя школы я бачыў і ў амэрыканскіх баптыстых і прэсьбітарыянаў.

На аснове гэтых назіраньняў, я напісаў ліст Уладыку Васілю, у якім прапанаваў, каб ён, маючы ў сваёй царкоўнай Радзе настаўнікаў, а да іх запрасіў іншых, і сарганізаваў Школьны Інспэктарат, які клапаціўся-б аб арганізацыі пры цэрквах беларускіх школаў, выданьні праграмаў, падручнікаў і іншых актуальных школьных справах.

На маю прапанову-просьбу Ўладыка Васіль лістом ад 15. XII. 1958 году адказаў мне наступнае:

„Вашая думка адносна Школьнага Інспэктарату вельмі добрая, і я асабіста поўнасьцю пагаджаюся зь ёю. Я ўжо гаварыў зь некаторымі нашымі людзьмі на гэтую тэму, і даведаўся ад іх, што неўзабаве будзе скліканае паседжаньне ўсіх настаўнікаў, і там будзе парушанае гэтае пытаньне. Я не хачу тварыць гэтага Інспэктарату беспасярэдня пры Царкве дзеля дзьвюх прычынаў: 1) дзеля нястачы сярод нашае інтэлігенцыі зразуменьня ролі Царквы нагул, і 2) дзеля таго, што асабліва ў Нью-Ёрку значны працэнт нашых каталікоў, якія-б маглі крыва паглядзець на гэта, таму я не хачу, каб нашая Царква была тут нейкаю перашкодаю.

Нажаль, некаторыя нашыя каталікі ня спрыяюць узмацненьню нашае Царквы, і я, хоць і стараюся, але зразумець тут іх не магу. Таму, паўтараю, горача падтрымоўваючы Вашую думку адносна Інспэктарату, разбудоўваць яго пры нашай Царкве не хачу, я буду рад, калі ён нагул будзе зарганізаваны, бо гэта добрая й карысная рэч, а пры якой установе ён-бы працаваў, для мяне рэч другарадная, галоўнае тое, што ён будзе наш, беларускі."

У 1959 годзе я атрымаў запросіны на агульны Кангрэс БАЗА ў Нью Ёрку. У вадказ на гэтыя запросіны я выслаў ліст 25. 5. 1959 г. наступнага зьместу:

„Высока Паважаны Сп. Сташыня!

Вельмі дзякую за запросіны на 8-мы Кангрэс БАЗА. На вялікі жаль, прыехаць і ўзяць удзел у працы Кангрэсу я не магу. Прашу перадаць Сябром Кангрэсу шчырыя прывітаньні й пажаданьні плённае працы.

Пры гэтым, карыстаючы з нагоды, прашу Вас, Сп. Старшыня, паставіць на парадак дня для абмяркаваньня й пазытыўнага палагоджаньня наступнае прапановы: Стварыць Цэнтральную Культурна-Асьветную Ўстанову для ўсіх краінаў расьсяленьня беларускае эміграцыі. Заданьнем гэтае ўстановы павінна быць:

1). Арганізацыя сваіх аддзелаў ува ўсіх краінах расьсяленьня беларускае эміграцыі.

2). Арганізацыя школ і культурна-асьветнае працы створанымі аддзеламі.

3). Апрацаваньне й выданьне неабходных падручнікаў для школаў і неабходных матар'ялаў для культурна-асьветнае працы.

4). Каардынацыя культурна-асьветнай працы аддзелаў.

5). Зьбіраньне сродкаў для арганізацыі собскае друкарні.

Кангрэс абмяркоўвае й дае назоў гэтай арганізацыі й выдзяляе ці прызначае сяброў для апрацаваньня ейнага статуту.

Калі-б з фармальнага боку арганізацыя такое ўстановы была не ў кампэтэнцыі Кангрэсу, то ёсьць выхад: уваскрэсіць зь мёртвых арганізаваны на зьезьдзе настаўнікаў у 1947 годзе, у лягеры Віндзішбэргэрдорф, Настаўніцкі Саюз і даручыць яму гэтую справу".

Прайшло год часу й я атрымаў з Галоўнае Кватэры БАЗА, 401 Атлантык Ав., ліст, датаваны 29 чырвенем 1960 году, наступнага зьместу:

„Вельміпаважаны Спадар Вініцкі!

Пераглядаючы пратаколы Восьмага Кангрэсу БАЗА, я напаткаўся на Вашыя прапановы Кангрэсу аб стварэньні „Цэнтральнае Культурна-Асьветнае Ўстановы ў Нью Ёрку", на што Вам да гэтага часу ня быў даны адказ. Я вельмі Вас перапрашаю за гадавое спазьненьне, бо тутака й мая віна, бо я быў адным із сакратароў Кангрэсу. Да Вашага ведама цытую з пратаколу:

„Да пункту 9 — Вольныя прапановы.

Старшыня Кангрэсу чытае прапанову сп. А. Вініцкага ў справе зарганізаваньня Цэнтральнай Культурна-Асьветнай Установы ў Нью Ёрку (гл. залучнік). У гэтай справе забіралі голас: Міцкевіч, Русак, Запруднік, Адамовіч і Мярляк. У выніку дыскусіі пастаноўлена даручыць Галоўнай Управе даць адказ сп. А. Вініцкаму, выясьняючы, чаму такая ўстанова ня можа быць зарганізаваная ў Нью Ёрку.

А прычыны ведамыя: няма адпаведных людзей, каб працавалі навет у тых культурных арганізацыях, якія існуюць у Нью Ёрку — Інстытут Навукі й Мастацтва, Беларускае Акадэміцкае Таварыства й Крывіцкае Таварыства Фр. Скарыны, а тварыць новую, палічылі дакладчыкі, было-б на шкоду і тым мала актыўным існуючым ужо арганізацыям.

З глыбокаю пашанаю да Вас, К. Мерляк, Старшыня Галоўнай Управы БАЗА".

Калі вышэй паданыя прапановы Ўладыку Васілю й Кангрэсу БАЗА на сяньняшні час зьяўляюцца неактуальнымі, дык я маю трэйцюю прапанову: Ажывіць няпраўна замарожанае Сусьветнае Аб'еднаньне Беларускай Эміграцыі (САБЭ), якое павінна ажывіць ня толькі грамадзкую працу ў розных арганізацыях, але й зарганізуе школьныя аддзелы, а празь іх і беларускія школы для навучаньня ў іх беларускіх дзетак.

З пашанаю **А. Вініцкі**
10. 11. 1970 г. Лёс Анджэлес

# „ЛЕНІНІЗМ БЯЗ МАСКІ" І НЕДАХОПЫ

Вельмі добра, што Згуртаваньне Беларусаў Канады ўзяло ўдзел у арганізацыі антыленінскае выстаўкі ў бібліятэцы Сіты Гол у Таронта, якую арганізаваў Камітэт 11-ёх нацыянальных групаў Таронта. Шмат зрабіў у гэтай справе ольдэрмэн В. Байчук — Украінец. А мэр Таронта В. Дэнісон не пабаяўся расейскае прэсы, што нападае на яго, улучна з маскоўскай „Праўдой". Ён паставіўся да справы аб'ектыўна: калі можна было зрабіць у Таронта на два тыдні ленінскую выстаўку, дык таксама згадзіўся на арганізацыю й супраць ленінскае выстаўкі — у тэй-жа самай бібліятэцы й на такі-ж самы двутыднёвы час (2—13. XI. 1970 г.). Выстаўка мела вялікую ўдачу, яе наведала ў пяць разоў больш людзей, як камуністычную — ленінскую.

Але былі й недахопы. На выстаўцы вісела карта Савецкага Саюзу ўкраінскага выданьня на эміграцыі (аўтар др. Кульчыцкі), якая далёка неаб'ектыўна паказвае тэрыторыю Беларусі й між іншага Беларускае Палесьсе зь Берасьцем, Пінскам і Мозырам залучае да Ўкраіны. Факт гэты выклікаў абурэньне ў беларускіх наведвальнікаў выстаўкі, а прадстаўнік ЗБК сп. К. Акула запратэставаў супраць гэткае карты ў часе сходу арганізатараў выстаўкі.

І запраўды, аб што хадзіла таму, хто вывесіў гэтую карту? Задэманстраваць украінскія тэрытарыяльныя прэтэнсіі? Выклікаць міжнацыянальную варажнечу? Дык гэта-ж супярэчыць духу й намерам выстаўкі! Тут трэба было паказаць маскоўскі савецкі імпэрыялізм, дык і карту трэба было вывешваць з актуальнымі межамі савецкіх рэспублікаў. Сытуацыю спрабаваў злагодзіць адзін зь кіраўнікоў выстаўкі які сказаў, што была вывешаная першая лепшая карта, што папала пад руку, бо ня было ўжо часу шукаць іншае.

Бібліяграфія ў памфлеце паангельску „Ленінізм бяз маскі" („Ленінізм відаўт мэйк-ап") із шмат якіх выданьняў Інстытуту вывучэньня СССР у Мюнхене падае толькі адну працу пра Ўкраіну, працы-ж пра Беларусь — манаграфіі й зь „Белорашэн рэвю" — ігнаруе, не падае аніводнай. Дык у гэтай бібліяграфіі няма фактычна ніводнае пазыцыі пра Беларусь, калі ня лічыць апавесьці К. Акулы „Тумороў іс естэрдэй".

Арганізатары абяцаюць выправіць гэтыя памылкі, як выстаўка „Ленінізм бяз маскі" пойдзе па іншых местах Канады. Жадаем ёй удачы.

**Ж.**

# БЕЛАРУСЬ У ЗМАГАНЬНІ

**(Канчатак з паярэдняга нумару)**

20-ты-ж век прынёс ужо вялікія войны ў форме войнаў сусьветных. Першая сусьветная вайна выбухла ў 1914-м годзе, і на высхадзе гэтай сусьветнай вайны пачалася ізноў і вайна за Беларусь, вайна за Беларускую Народную Рэспубліку, абвешчаную незалежнай Актам 25-га Сакавіка 1918-га году. Гэты Акт, гэтае абвешчаньне незалежнасьці Беларусі, фактычна быў актам абвешчаньня вайны за Беларусь, вайны за Беларускую Народную Рэспубліку. Негатовая тады была Беларусь да гэтае вайны. Вайну гэтую ў бальшыні давялося весьці бяз войска, зьберці гэтае войска было цяжка, але ўсё-ж такі вайна вялася, яна дала такі выбух, як Слуцкае паўстаньне 1920-га году, гэты апошні вялікі выбух першае стадыі, першага этапу вайны за Беларускую Народную Рэспубліку.

Але вялікае вайны, сусьветнае вайны ўжо ня было на сьвеце. Вялікаму суседу ня цяжка было здушыць гэтую малую, маленькую вайну супраць яго, слуцкую вайну беларускага народу. І ён здушыў яе. Аднак, як толькі паўстала 2-ая сусьветная вайна, дык ізноў пачаліся намаганьні аднавіць гэтую вайну за Беларускую Народную Рэспубліку, аднавіць яе галоўным парадкам ствараючы ўжо свае войска. Пра гэта гаварыць ня будзем, шмат хто з вас браў у гэтым беспасярэдні ўдзел. Але 2-ая сусьветная вайна была такою жудаснаю, такою страшэннаю, што яна зрабіла самую ідэю вайны непапулярнай. І цяпер непапулярная гэтая ідэя ў нас на бацькаўшчыне, і не папулярная яна па цэлым сьвеце. Бо апрача таго, пры канцы гэтай Сусьветнай вайны, 2-ой, паўстала яшчэ здань-прывід вайны атомнай, вайны тэрмаядзернай, страшней чаго нельга ўжо навет і выдумаць. Гэта найбольш і зрабіла ідэю вайны непапулярнай, гэта выклікала антываенныя рухі, якія мы бачым тут і сягоньня. Іншая рэч, што разьдзьмухваюць гэтыя антываенныя рухі тыя, хто зусім ня супраць вайны, хто толькі хоча лёгкай для сябе вайны, такой вайны, каб віць пугі й гнаць перад сабою, як у нас кажуць. Яны разьдзьмухваюць гэтыя антываенныя настроі, але настроі гэтыя маюць пад сабой глыбокі псыхалягічны грунт. Гэны прывід атомнай вайны й гэныя ўспаміны жахаў 2-ой сусьветнай вайны вызначаюць гэты псыхалягічны грунт.

Але-ж, атомная вайна, атомная бомба!...

Колькі год таму мне даводзілася гаварыць шырэй на гэтую тэму ў Чыкага...

... У Чыкага я якраз гаварыў пра тое, што з раскладам атаму і зь зьяўленьнем-пасьля-атомнае, а далей і вадароднае бомбы ўсе пачалі казаць, што настала зусім новая эра ў жыцьці чалавецтва. Але фактычна эра гэтая — атомная эпоха, казаў я тады, настала яшчэ раней. Бо перш, чымся быў раскладзены атам фізычны, рэцэпт раскладу атаму, сказаць-бы псыхаідэялягічнага быў дадзены Каралём Марксам — і гэта адтады пачалася новая эпоха, у гэтым можа быць згода з марксавымі пасьлядоўнікамі і ў ягоных супраціўнікаў. І пасьля, паводля таго рэцэпту, Ленін сканструяваў псыхаідэялягічную атомную, а за ім Сталін і вадародную псыхаідэялягічную бомбу — і пайшла ў ход, сказаць-бы, псыхаідэялягічная тэрмаядзерная зброя.

І вось, калі фізычную бомбу тэрмаядзерную маюць абодвы бакі, якія пэрспэктыўна стаяць у змаганьні, прычым той бок, па якім і мы стаём, мае ў гэтым дачыненьні перавагу, дык вось тую, псыхаідэялягічную атомную бомбу мае толькі адзін бок, казаў я, ён яе й выкарыстоўвае, будзе выкарыстоўваць, і ў гэтым галоўная, вялікая небясьпека, у гэтым вялікі страх, бо наш бок ці ня можа, ці ня хоча распрацаваць сваю псыхаідэялягічную атомную зброю. Гэта я казаў у Чыкага. Але адна безадказная асоба, якая ня чула, што я казаў у Чыкага, ня была там, калі прайшло ўжо колькі год па гэтым, прачытаўшы газэтную зацемку, якая, як заўсёды газэтныя зацемкі, не магла быць ані поўная, ані дакладная, а мусіла быць схэматычнай, асоба гэтая напісала, а пабожныя людзі надрукавалі — бо як-жа, калі напісана, не надрукаваць, а асоба ўсётакі тытулаваная — надрукавалі ў друку, што Адамовіч у Чыкага палохаў атомнай бомбай, выконваючы заданьне Хрушчова...

Судзіцца зь ім за палітычную інкрымінацыю? Няхай сабе. Няхай панясець ён гэта на той найвышэйшы суд, ад якога, кажуць, ніводзін з нас не адкруціцца і які для каж-

**(Канчатак на 3-яй бачыне)**

# БЕЛАРУСЬ У ЗМАГАНЬНІ

(Канчатак з 2-ой бачыны)

нага з нас можа настаць у кажную часіну...

Выбачайце за гэты маленькі адыход. Вярнемся да тэмы. Дык як нам усё-ж ткі ставіцца да вайны, якая так непапулярная сяньня, у сяньняшніх абставінах? Пэўна-ж, кажны з нас, калі ён толькі нармальны чалавек, ня хоча вайны, як кажны з нас, калі ён толькі нармальны чалавек, ня хоча сьмерці. Але вайна — гэта ня зусім сьмерць. Вайна — гэта гульня зь сьмерцяй, і як і ў кажнай гульні, у ёй можна праграць, можна, як кажуць, згуляць у нічыю, а можна і выграць. I таму мы да гэтай магчымасьці вайны павінны ставіцца з гатовасьцяй. Мы вайны ня хочам, але калі гэтая вайна настане, то мы мусім быць гатовыя, каб самі йсьці й нашаму народу памагаць у гэтую вайну йсьці і ў гэтай вайне выграць!

Гэта найвышэйшы ўзровень змаганьня — вайна, вайсковае збройнае змаганьне. Але куды шырэйшы, хоць і ніжэйшы ўзровень — гэта змаганьне ўжо не вайсковае, ня збройнае, змаганьне, якое можна было-б назваць панашаму вельмі добрым, хоць мала ўжываным словам „ходаньне". Гэта даходжаньне свайго рознымі ходамі, ужо ня зброяй. Вось гэтае ходаньне ў прамежках паміж ваенным змаганьнем ніколі не перасьціхала ў нас на Беларусі. I давала вельмі вялікія вынікі. Досыць сказаць, што дзякуючы гэтаму ходаньню, нат у савецкіх абставінах, удалося дайсьці гэтак званай беларусізацыі, якая на працягу пяцёх год, ад 23-га да 28-га году, на працягу гэтых сваіх першых пяцёх год стварыла нам вялікую базу, стварыла нам нацыянальную школу, стварыла нам асновы нават нацыянальнае навукі, асновы літаратуры. Калі ў 28-м годзе пачалі ўжо тут памаленьку, як кажуць, даваць задні ход, агледзеўшыся, што далі зашмат у гэтым ходаньні, дык усё-ж ткі аснова ўжо была створаная, і наступныя пяць год, ад 28-га па 33 год, усяроўна гэтая беларусізацыя інэрцыяю йшла яшчэ ў нізох, у масах шырылася й трымалася. I за гэтыя разам 10 год беларуская база стварылася такой моцнай на бацькаўшчыне, якой яна ня была ніколі ў часох паняволеньня нашага народу, і яна такая моцная, што яе й цяпер яшчэ нельга выкараніць. I каб ня было гэтых 10-цёх год беларусізацыі, дык я ня ведаю, ці тое, што тлела ў нас у Заходняй Беларусі пад Польшчаю, дало-б такія вынікі, каб мы з вамі маглі-б тут зьехацца й гаварыць так, як мы гаворым сягоньня.

Вось гэта тое, што дало нам гэтае ходаньне. Гэтае ходаньне вядзецца й цяпер на бацькаўшчыне. Яно вядзецца цяпер з новаю сілаю пасьля сьмерці Сталіна, бо за Сталінам яно ўжо зусім мусіла зыйсьці на няма нічога. Яно, гэтае ходаньне, вядом і мусім весьці й мы тут таксама. Нам тут ёсьць шмат за што ходацца, хоць-бы ходацца за гэнае прызнаньне таго, што ёсьць беларуская мова. Ходацца за тое, каб гэта беларуская мова была хоць-бы ў тым самым „Голасе Амэрыкі". I ёсьць нам за што ходацца і ў сябе ў сярэдзіне, у сярэдзіне свае грамады. Учора на нарадах нашае Сустрэчы была гэтая тэма, тэма ходаньня ў сярэдзіне, найважнейшага ходаньня, ходаньня за беларускую моладзь. I калі тэма „Беларусь у змаганьні" — гэта асноўная тэма нашай сустрэчы, дык тэма змаганьня за беларускую моладзь — гэта нашая мясцовая канкрэтная тэма гэтай сустрэчы, якою пачалася яна ўчора й якою скончыцца яна заўтра.

Але-ж, гэта вельмі важнае ходаньне, яго мы мусім выграць. Розныя пагляды былі выказаныя й будуць яшчэ выказаныя ў гэтай справе. Ясна адно, што трэба ходацца за нашую моладзь, якая ад нас высьлізгваецца, уцякае. За тую моладзь, якая не гаворыць пабеларуску, каб яна ўсьведаміла тыя А Б Ц нашае нацыянальнае сьведамасьці, напачатак прынамся. Але таксама маё глыбокае пераконаньне, што трэба ходацца й за тое, каб яна гаварыла пабеларуску, Іншая рэч, што гэта справа „праграмы максымум", як кажуць. „Праграма максымум" не заўсёды можа быць выкананая, але ськівдаць гэтую рэч з „праграмы максымум" аніяк нельга. Пытаньне галоўнае толькі аб тым, як ходацца? Гэта пытаньне пэдагагічнае, бо гэтая справа тут — справа ўзгадаваньня. I тутака якраз мы часта б'ёмся ў вадчыненыя дзьверы, а можа часам і ў зачыненыя дзьверы, не адчыняючы іх. Бо мы забываемся, што нашая моладзь гадуецца тут, у тутэйшых школах, паводля тутэйшае й сучаснае пэдагогікі, а ня паводля тае пэдагогікі, якая гадавала нас. Калі я вучыўся на настаўніка ў Менскім Беларускім Пэдагагічным Тэхнікуме ймя Ўсевалода Ігнатоўскага, у той час у нас вельмі модныя былі амэрыканскія тэорыі ўзгадаваньня. Мы іх ня толькі грызьлі, але мы іх мусілі практычна ў школе праводзіць. Я крыху знаю гэтыя тэорыі. Асноўны прынцып тутэйшае сучаснае пэдагогікі ў тым, што навука павінна давацца моладзі як „фан". „Фан" — ёсьць такое ангельскае слова, якое зусім нельга перакласьці й перадаць у іншую мову. Яно, паміж іншага, ня зусім і ангельскае, яно пазычанае зь ірляндзкага. Панашаму можа было-б тут блізка слова — „пацеха", але гэта ня зусім дакладна, бо панашаму „пацеха", асабліва пад уплывам іншых моваў, часта мае ня зусім тое значаньне. А тут галоўнае значаньне, як у тэй прыказцы: „Калі не пацешыцца дык павесіцца"... Дык вось, моладзі трэба беларускую справу й беларускую мову падносіць як „фан", а не як нуду, не як муру сухіх бясконцых „чытаняў" з паперак. Гэтым моладзі не ўзгадуеш. Гэтым якраз можна дамагчыся другой часткі прыказкі: павесіцца, і павесіць гэтую моладзь. Нам трэба апанаваць асновы гэтай сучаснай тутэйшай пэдагогікі й трэба навучыцца браць моладзь на гэты „фан", падаць ёй Беларусь, падаць ёй беларускую мову як гэты „фан", як нешта цікавае, прыемнае, спартовае, а ня сухое, мяртвое, манатоннае...

Гэта два верхнія ўзроўні змаганьня: вайна — ходаньне. Але ёсьць яшчэ адзін узровень, ці нават два найніжэйшыя ўзроўні, якія часта, раней асабліва, нават і не асацыяваліся з гэтым самым разуменьнем змаганьня. Гэта ўзровень, ці ўзроўні супраціву. Супраціву актыўнага, або адпору, так, як мы пяём у нашым нацыянальным гімне: „А гвалту мы дамо адпор", і асабліва супраціву пасыўнага, або супору. Як я казаў, раней нават ня зьвязвалі гэты супраціў з змаганьнем, уважалі, што гэта нешта зусім іншае, рознае. Але калі зьявіліся таталітарныя рэжымы, першы, зразумела, савецкі, камуністычны, а за ім уборзьдзе другі — італьлянскі фашыстаўскі, мусалінеўскі, а за ім трэйці ў Нямеччыне нацыянал-сацыялістычны, гітлераўскі, дык тады сталася ясна, што змаганьне ані ў форме вайны, ані ў форме ходаньня з гэтымі рэжымамі проста немагчымае. Заставалася толькі адно, заставалася толькі гэтая форма, якая цяпер і была ўсьведамленая, як форма змаганьня, як ягоны ніжэйшы ўзровень — узровень супраціву, і то найбольш можа супраціву пасыўнага. I гэта тады ў Французаў зьявіўся тэрмін для гэтага — „рэзыстанс", што й значыць панашаму — супраціў. Для нашага народу гэты супраціў, „рэзыстанс", гэтая найбольш актуальная форма змаганьня ў вабставінах таталітарных рэжымаў — рэч ня новая. Супраціў — рэзыстанс нашага народу трываў увесь час, ад таго мамэнту, калі народ наш стаўся паняволеным. Дзякуючы гэтаму супраціву народ наш і выжыў, дзякуючы гэтаму супраціву й выжыла нашая беларуская мова, так што для нас у гэтым нічога новага няма. I гэты супраціў цяпер, на бацькаўшчыне, становіць сабой галоўную форму змаганьня. Гэты супраціў выяўляецца там усюды. Не адразу яго лёгка злавіць простым вокам, але заўсёды можна яго здабыць спад спуду. Гэта галоўная й спэцыфічная для нашай бацькаўшчыны форма змаганьня цяпер.

Для нас тут, у замежжы, яна неактуальная, мы ня маем каму тут супраціўіцца. Мы тут павінны толькі гэты супраціў на бацькаўшчыне нашай пільна сачыць, сачыць усе ягоныя факты, і гэтыя факты паказваць сьвету, паказваць сьвету, як довад таго, што ёсьць Беларусь, што жыве Беларусь!... Але-ж, жыве Беларусь! Змагаймася як мага — зможам!

**Ант. Адамовіч**



## У БЕЛАРУСКІМ ІНСТЫТУЦЕ Ў НЬЮ ЁРКУ

Др. Вітаўт Кіпель 28 лістапада сёлета прачытаў у Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку рэфэрат на тэму „Беларуская нацыянальная бібліяграфія". Дакладчык даў цікавы нарыс гісторыі беларускае бібліяграфіі, дэтальна спыніўшыся на арганізацыі Беларускае Кніжнае Палаты ды на бібліяграфічнай дзейнасьці Інстытуту Беларускае Культуры (Інбелкульту) у Менску ў 1920-ых гадох. Дакладчык зрабіў таксама агляд сучаснага стану беларускае аналітычнае, рэгістрацыйнае і рэтраспэктыўнае бібліяграфіі ды падаў да ведама, што ў БІНіМ рыхтуецца колькі сэрыяў бібліяграфіі беларусікі ў славянскіх мовах паза межамі СССР і ў мовах заходніх.

БІНіМ пляную пачаць выданьне сэрыяў у 1971 годзе.

Др. В. Кіпель сам апрацаваў бібліяграфію беларусікі ў заходніх мовах, у якую ўвайшло больш за тры тысячы назоваў, ды якая неўзабаве будзе здадзеная ў друк.

Па дакладзе адбылася жвавая й плённая дыскусія.

Наступны рэфэрат у Інстытуце адбудзецца 12 сьнежня. Др. Ст. Станкевіч прачытае даклад на тэму „Чатырохтомавая ‚Гісторыя беларускае літаратуры' — спроба рэгабілітацыі гістарычнае праўды".

## ПАРАХВІЯЛЬНЫ СХОД У НЬЮ ЁРКУ

У нядзелю 29 лістапада адбыўся агульны гадавы перавыбарны Парахвіяльны Сход БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

На Сходзе, між іншымі справамі, была выбраная новая Царкоўная Рада Парахвіі ў складзе: а. Карп Стар, інж. Мікалай Гарошка (старшыня), Пётр Манькоўскі (віцэ-старшыня), Барыс Данілюк, Міхась Міцкевіч, Аляксандар Міцкевіч, Міхась Тулейка, Кастусь Варабей, Янка Груцька, Юрка Касьцюкевіч, М. Заморскі.

У Рэвізійную Камісію выбраныя: Д-р Уладзімер Набагез, інж. Міхась Рагуля й Уладзімер Курыла.

# „УЗНОСІЦЦА ГОТЫКА, НІБЫ АГОНЬ У НЕБА"

„Хай кране цябе вечнасьць далоняй шурпатай,
Голас продкаў далёкіх у цішы прагудзе..."

**Вольга Іпатава**

Хто ня ведае старадаўняе, але дагэтуль жыцьцёвае прыказкі: „Чалавеку ўласьціва памыляцца"? Першым ужыў яе грэцкі паэта Тэазід яшчэ за 500 год да нашае эры. Потым у розных варыянтах яна паўтораная Эўрыпідам, Цыцэронам і Сэнэкам. I таму ня зьдзіўляе, калі выдатны ўзвышэнец Язэп Пушча ў сваім прачулым творы „Песьня юнацтву" сумуе:

О, Беларусь!
Тваё мінулае ў мармурах не застыла
і медзьдзю-бронзай ня зьвініць.
Яно ня знае готыкі, антычных стыляў,
ня знае колеру сузорчатых зарніц.

А між тым хоць з прычыны гістарычных злыбедаў і ня шмат перахавалася на Беларусі помнікаў мінулага, але ў іх адбіліся ўсе архітэктурныя стылі знаныя чалавецтву.

Здаўных-даўна ўпрыгожвае сяло Сынкавікы, што на Слонімшчыне, Міхайлаўская царква, нагадваючы сваім выглядам хутчэй сярэднявяковы замак. Паводля пісьмовае крыніцы яна нібы пабудавана ў 1447 годзе, аднак большасьць навукоўцаў на падставе ўсебаковага дасьледваньня яе адносяць ейнае ўзьнікненьне да пачатку 16 стагодзьдзя. Прынамся Віленскі Бэрнардынскі касьцёл, які зьяўляецца першым цытадэльна-рэлігійным помнікам на абшары гістарычнае Літвы, пабудаваны ў 1525 годзе, а Сынкавіцкая абаронная царква сваймі найбольш тыповымі дэталямі крыху за яго пазьнейшая. Народ-жа па свайму звычаю стварыў вакол яе шмат паданьняў. Аднойчы пры нападзе ворагаў — расказвалі дзяды — тутэйшыя жыхары зачыніліся ў ёй і пасьпяхова адбілі іхні першы наступ, а калі потым падыйшоўшы да самых сьцен, яны паспрабавалі падпаліць царкву, дык зьверху зь ейных байніцаў абваліўся на іх суцэльны струмень расплаўленае смалы й вару. Тады ворагі вырашылі адалець абаронцаў зморам, але таксама нічога не дамагліся, бо праз няведамы ім падземны ход абложаныя змагары забясьпечваліся і порахам, і ежай, і вадой. I гэтае двайное прызначэньне будынку, як дому малітвы й даволі моцнае крэпасьці знайшло адбітак у ягоным архітэктурным абліччы.

Калі глядзіш на Сынкавіцкую царкву, дык перш за ўсё кідаецца ў вочы высокі дах з крутымі спадамі й рагавыя вежы, зь якіх дзьве круглыя, а дзьве васьмігранныя. У паддашы над скляпеньнем, куды ўва ўсіх вежах вядуць лесьвіцы, прарэзаны ў верхняй частцы тоўстых сьценаў 41 байніца, як ёсьць яны таксама і ў вежах. З гэтых байніцаў круглыя й квадратовыя прызначаліся для нагляданьня й абстрэлу вакольнае мясцовасьці, а тыя, што маюць форму простакутнікаў, для абароны подступаў да ніжняе часткі сьценаў. Разам з тым невядомы даравіты дойлід скарыстаў байніцы ня толькі для вайсковых мэтаў, але й як сродак для вонкавага аздабленьня царквы, і яны падпяразваюць яе нібы поясам. Апрача байніцаў, упрыгожваюць таксама будынак нішы, падобныя да нішаў Маламажэйкаўскае абароннае царквы і вежаў Мірскага замку, але тут яны маюць больш суворы характар, нібы падкрэсьліваючы ягонае перадусім абароннае прызначэньне, аб чым у дадатак сьветчыць і тое, што вузкія вокны, праз якія не пралезе чалавек, наўмысьля зробленыя высока ад зямлі. Наагул-жа сваёй канструкцыяй Сынкавіцкая царква блізкая да пабудаванае ў 16 стагодзьдзі ведамае брамы Субач у віленскіх замкавых мурох.

У сваім пляне Сынкавіцкая Міхайлаўская абаронная царква прыгадвае крыху старадаўнія праваслаўныя сьвятыні Беларусі, як Горадзенскую Каложу, Полацкі Спас і Віцебскае Дабравешчаньне, але шмат у чым істотна ад іх і адрозьніваецца. Бізантыйскі плян атрымаў тут гатыцкую з дамешкай раманскага стылю апрацоўку. Для апошняга вельмі характэрны паясок, які ахаплівае апсіду і дзьве круглыя вежы, а затое бадай ува ўсіх іншых дэталях адбілася готыка. Аб ёй сьветчыць і вялікая вышыня даху з войстрым шчыпцом, і сьпічастыя аркі праёмаў, і празрыстасьць заходняга фасаду, і зоркавае скляпеньне ў дыяканьніку і нават тое, што скляпеньне ў нэфах абапёртае ня вылучна на слупы, чаго патрабуе бізантыйскае дойлідзтва, а, як звычайна ў гатыцкіх будынках, найбольш падтрыманае знадворку з дапамогай контрафорсаў. Прычым у параўнаньні із сваім папярэднікам Віленскім Бэрнардынскім касьцёлам, дзе вычуваецца ўплыў готыкі нямецкага тыпу, Сынкавіцкая царква зьяўляецца ўзорам сваясаблівае беларускае готыкі.

I ўважаю цяпер за патрэбнае падаць водгукі навуковых дасьледнікаў аб Сынкавіцкай царкве. Яшчэ П. Бацюшкаў у сваёй працы „Беларусь і Літва", выдадзенай у 1890 годзе, падкрэсьліў ейныя гатыцкія рысы. У. Чантурыя ў кніжцы „Гісторыя архітэктуры Беларусі" піша: „Гэты помнік мае сваё архітэктурна-мастацкае вырашэньне як выснаў творчае перапрацоўкі розных традыцыяў мясцовымі майстрамі". М. Шчакаціхін у сваіх выдатных „Нарысах зь гісторыі беларускага мастацтва" сьветчыць: „Уласнае значэньне Сынкавіцкае царквы, як помніку палягае ў тым, што з дапамогай яго мы хоць часткова вызначаем паходжаньне і генэзу сваеадменных форм беларускае царкоўнае готыкі". Нават Ю. Ягораў, у працы якога „Градостроительство Белоруссии" вычуваецца ўплыў з боку ведамага вульгарызатара гісторыі Беларусі Абэцэдарскага, вымушаны сьцьвердзіць: „Усё-ж трэба адзначыць, што пры агульных рысах, якія мае плян Сынкавіцкага храма з плянам чатырохслуповых расейскіх цэркваў, ягоны мастацкі выгляд самабытны". I нарэшце прыгадваецца зусім слушны выснаў Э Вецер і Г. Штыхава ў артыкуле „Бяспрэчнае і спрэчнае", зьмешчаным летась у „Літаратуры і Мастацтве": „Маламажэйкаўская й Сынкавіцкая цэрквы вызначаюць нацыянальны характар беларускага дойлідзтва 16 стагодзьдзя. У іх выяўлены дух часу, асноўныя эстэтычныя ідэялы эпохі і дасягненьні тагачаснай будаўнічай тэхнікі".

Здаецца адсюль, што вылучная каштоўнасьць Сынкавіцкае Міхайлаўскае царквы, як помніку культуры не падлягае аніякаму сумлеву, але, на жаль, не для ўсіх гэтае зразумела. Былы старшыня Беларускага Таварыства аховы помнікаў Ц. Гарбуноў у сваім інтэрвію, надрукаваным у „Літаратуры і Мастацтве" ў верасьні 1965 году, дамагаўся, каб з Сынкавіцкае царквы выдалілі калгасны склад, аднак, відаць, бяз посьпеху, бо праз год у сьнежні ён там-жа паўгарыў тое-ж. Нават яшчэ праз тры гады 16 навукоўцаў у сваім артыкуле „Аўтографы на фрэсках", зьмешчаным у „Чырвонай зьмене" ад 18 леташняга верасьня, адзначаючы спачатку: „Стаіўшы дыханьне глядзелі мы на цуд — Маламажэйкаўскую і Сынкавіцкую цэрквы — выдатныя помнікі беларускае архітэктуры" — потым з сумам дадаюць — „Кіраўнікі калгасу, на тэрыторыі якога знаходзіцца Сынкавіцкая царква, дадумаліся ля помніка саюзнага значэньня пабудаваць... кароўнік". I пэўне-ж ня дойдзе да гэтых самых ды некаторых вышэйшых за іх кіраўнікоў пачуцьцё пашаны да мінулага Беларусі, аб якім, маючы на ўвазе Сынкавіцкую й Маламажэйкаўскую цэрквы, гэтак добра сказаў у сваёй „Балядзе каменя" Уладзімер Караткевіч:

„Узносіцца готыка, нібы агонь у неба. I гэта палёт думкі, што пачынае абуджацца, гэта перадпачатак рэнасансу, гэта вершаваны ўступ Скарыны да кнігі „Іудзіф".

**Юрка Віцьбіч**

# ЗЬ БЕЛАРУСКАГА САВЕЦКАГА ДРУКУ

## ПРА БЕЛАРУСКІХ СІБІРАКАЎ

„Сібір, куды пехатою й на ламаных калёсах амаль цэлае стагодзьдзе йшлі й ехалі Беларусы — ішлі ўсяго толькі па кавалак хлеба.

Я таксама ледзь не зрабіўся сібіраком. Я мог-бы нарадзіцца ўжо ў Сібіры — бацька, калі мой бусел яшчэ й ня зьбіраўся мяне шукаць, канчаткова вырашыў перасяліцца туды, і ўжо навет пачаў быў распрадавацца . . .

Вось таму мяне й цягне зірнуць на той край, які ледзь ня стаў маёй другою радзімаю . . .

Па Сібіры ішоў сенакос.

Навет у вёсцы Стрэценка, у канторы калгасу „Расьсвет", куды я прыехаў зь Ніжняга Інгаша, стаяла цішыня — усе былі ў тайзе, на сенакосе. Толькі адзін чалавек настойліва дамагаўся кудысьці дазваніцца і ўсё ўгавораў тэлефаністак:

— Вы Кавалеўскага далей адсуньце, ён пасьпее яшчэ нагаварыцца. А мне во на пакос трэба ехаць.

І па тым, як гэты чалавек гаварыў, я зразумеў, што трапіў якраз туды, куды даўно сьпяшаўся і што так настойліва шукаў у Сібіры.

Я быў у Беларусі. У Беларусі, якая ў стаптаных лапцях прыйшла сюды, у нечапаную тайгу, прынесла сюды сваю мову, песьні, звычкі й абрады, а сама назаўсёды прапахла тайгою кедрачоў, лісьцьвяжніц ды неласкавых сібірскіх маразоў. Тут жыве Беларусь-перасяленка, якая самаходам доўга ўцякала сюды ў халады — ад голаду. Прытэпаў, скажам, сюды некалі дзядзька Тамаш, ушчаміўся неяк з дапамогаю войстрай сякеры ў гушчар, паставіў там хату — і ўжо назаўсёды тут, у Сібіры, зьявілася Тамашовая тайга; высек сабе на хату магутныя лісьцьвяжніцы дзядзька Каваль, паставіў пяцісьценку на высокім узгорку (усё-ж адсюль далей відна дарога дадому), і ўжо гэтая мясьціна назаўсёды стала Кавалёвай гарой; вялікі кедрач, упяршыню пакладзены цераз маленьні ручаёк дзядзькам Казаком, пакінуў назаўсёды гэтаму месцу — Казакоў мосьцік

— А вунь у Нова-Пакроўцы Кур'яновіч Хама жыве. Спытайцеся Хаму — ніхто ня ведае, а Тамаша кожны, навет дзіця малое пакажа.

Мне расказалі, што ў Кукліне жывуць адны Беларусы (маўляў, „здаецца, толькі адна сям'я руская, ды й тая ці не з-пад Віцебску"); што большасьць перасялілася яшчэ да рэвалюцыі („а пасьля вайны, хто-ж гэта прыехаў да нас, ці памятаеце, — як-жа Богу, толькі Сядніха, Капітурыха ды Віталіха?"); што ўсе перасяленцы вельмі любілі раней лапці („а што — мяненька сабе; і бывала, па нечапаным сьнезе як папаходзім — здаецца, што гусі яго натапталі . . ."); што ўсе тут пішуцца рускімі („мала што гаворым, але-ж якія мы Беларусы, калі чытаць па-свойму ня ўмеем!") . . .

Яны, Беларусы-перасяленцы, ці самаходы, як іх называлі чалдоны — ранейшыя перасяленцы з Чала й Дона, абжывалі тайгу і ў Байкалове, і ў Нова-Аляксандраўцы, і ў Раманаўцы, і ў Гарэлым Барку, і ў Малінаўцы, і ў Іванаўцы, і ў Плашкіне, і ў многіх іншых дзікіх мясьцінах, якія потым ужо сталіся вёскамі. Гэтыя вёскі амаль поўнасьцю заселеныя Беларусамі, і таму няма ніякага дзіва, калі людзі, сабраўшыся разам на вясельле ці на хросьбіны, нейкім далёкім, вельмі шчымлівым і падсьвядомым інстынктам, мусіць, якраз такім, які восеньню ні з таго ні зь сяго пачынае раптам трывожыць і непакоіць птушак, навет тых, што яшчэ ніколі ня былі ў выраі, — такім інстынктам людзі ўспамінаюць сваю радзіму, і тады ў бясьседу прыходзяць нашыя беларускія песьні, прывезеныя дзядулямі й бабулямі з-за той далёкай дарогі, песьні, ад якіх вельмі-ж ласкавае кожнае застольле.

А такіх вёсак у Ніжне-Інгашскім раёне вельмі многа, бо ўвесь раён — амаль поўнасьцяй беларускі. Многа іх і ў самым Інгашы.

Так, разам зь няхітрым скарбам, узятым у далёкую дарогу, людзі везьлі з сабою ў невядомы край сваё спрадвечнае, звыклае, як штодзённы ўсход сонца, абжытае, як свая маленькая хатка, слова. У дарозе людзі захіналі яго лайном ад дажджу й ветру разам з галапузымі малечамі, якія дурэлі на возе; адагравалі ад раньніх сібірскіх замарзкаў разам з курамі й кацянятамі, якіх вельмі-ж шкада было пакідаць ля апусьцелай хаты. Песьцілі разам са сваімі марамі пра новае, лепшае жыцьцё ў тайзе.

Таму й сёньня ў беларускіх сібіракоў (ці сібірскіх Беларусаў — якая розьніца!) парэчкі называюцца толькі парэчкамі, журавіны — толькі журавінамі, бульба — толькі бульбаю, а хата (ну, вядома-ж, як яшчэ можа называцца рупна складзеная, хоць і з кедрача, пяцісценка!) — толькі хатаю".

(Янка Сіпакоў. „Па зялёную маланку". „Полымя" № 8 — 1970).

## ДЭМАНСТРАЦЫЯ Й КОНТР-ДЭМАНСТРАЦЫЯ Ў ТАРОНЬЦЕ

І сёлетняй восеняй, 31 кастрычніка, г. зв. Ветнамскі Мабілізацыйны Камітэт, што складаецца з крайня левых груповак трацкістых, маоістых, эндыпістых ды ўсякіх іншых кудлацікаў, склікаў пратэстацыйную дэманстрацыю ў Тароньце й іншых большых гарадох Канады супраць вайны ў Ветнаме.

Калі на папярэднія дэманстрацыі ім удавалася прыцягваць і па колькі тысячаў наіўных школьнікаў і студэнтаў, дык гэтым разам было іх усяго пад паўтысячу. Гэта паказвае, што людзі пачалі разьбірацца, у чым справа.

У гэны-ж самы дзень, час і месца Эдмунд Бурк Сосаеты наладзіла контрдэманстрацыю — за перамогу ў Ветнаме, у якой прыймалі ўдзел і Беларусы. У часе контрдэманстрацыі дайшло да сутычкі з бойкамі на пляцы Натана Філіпса перад гарадзкой ратушай, і гэтым фактычна была сарваная брахлівая гаварыльня, што пацьвердзіла й прэса, радыё ды тэлебачаньне. Не абыйшлося й бяз арыштаў.

А. -іч

## ДЭМАНСТРАЦЫЯ Ў АТАВЕ

На ўгодкі Кастрычніцкай рэвалюцыі ў суботу 7 лістапада ўвечары перад Савецкай Амбасадай у Атаве адбылася колькігадзінная дэманстрацыя, куды зь ініцыятывы Сьпілкі Вызваленьня Украіны й Эдмунд Бурк Сосаеты прыбылі адмысловым аўтабусам з Таронта дэманстранты.

Зьвяртала на сябе ўвагу вялікая колькасьць транспарэнтаў зь цікавым зьместам, сярод якіх было колькі й зь беларускім зьместам, а да таго й беларускі сьцяг ды лістоўкі пра Беларусь у ангельскай мове, пра што падбалі беларускія ўдзельнікі дэманстрацыі.

Вельмі зьдзівіла дэманстрантаў, дый ня толькі іх, а ўсю Канаду, — што савецкія перанесьлі на дзень раней свой традыцыйны пачастунак з водкай і ікрой для высокіх ўрадаўцаў і гасьцей, чаго яны ніколі не практыкавалі раней, каб гэтым усьцерагчыся дэманстрацыі.

У часе дэманстрацыі франтавая сьцяна й дзьверы Савецкае Амбасады былі абліты чырвонай хварбай ды быў падпалены чырвоны сьцяг.

А. -іч

## ПЕРАПЕЛАЧКА

Перапёлачка, перапёлачка!
Перапелі цябе у тры столачкі,
Пакалечылі апрацоўкамі
Выканаўцы спрытна-лоўкія, —
Не пакінулі ад народнага
Навет пёрка аніводнага.

Міхась Скрынка

(„ЛіМ", 20. XI 1970)

## КУЛЬТУРНА-ГІСТАРЫЧНЫЯ УГОДКІ 1971 Г.

**950** год ад першае летапіснае згадкі ў 1021 г. пра Віцебск.

**750 г.** ад сьмерці 21 жніўня 1221 г. беларускага красамоўцы сьвятога Аўрама Смаленскага.

**375** г. ад выхаду ў Вільні ў 1596 г. першага беларускага друкаванага слоўніка — „Лексіса" Лаўрэнція Зызанія.

**375** г. ад Берасьцейскае вуніі 1596 г.

**90** г. ад сьмерці 1 сакавіка 1881 г. беларускага рэвалюцыянера Ігната Грынявецкага ў часе замаху на цара Аляксандра II.

**90** г. ад нараджэньня ў 1881 г. Івана Луцкевіча.

**90** г. ад нараджэньня ў 1881 г. і 40 год ад сьмерці ў 1931 г. гісторыка Ўсевалада Ігнатоўскага.

**85** г. ад нараджэньня 23 красавіка 1886 г. і 30 год ад сьмерці 3 лістапада 1941 г. Зьмітрака Бядулі.

**80** г. ад сьмерці 7 лютага 1891 г. паэты Вінцэся Каратынскага.

**80 г.** ад нараджэньня 10 сьнежня 1896 г. паэты Максіма Багдановіча.

**75** г. ад нараджэньня 7 лістапада 1896 г. паэты Міхася Чарота.

**70** г. ад нараджэньня 30 сьнежня 1901 г. і 30 год ад сьмерці 13 красавіка 1941 г. пісьменьніка Міхася Зарэцкага.

**50** г. ад заснаваньня ў лютым 1921 г. Беларускай Навукова-Тэрміналягічнай Камісіі, на базе якой быў у пачатку 1922 г. створаны Інстытут Беларускай Культуры (Інбелкульт).

**50** г. ад Рыскага трактату 8 верасьня 1921 г., якім Масква падзялілася з Варшавай тэрыторыяй Беларусі.

**50** г. ад заснаваньня дзеячамі БНР у Чыкага Камітэту абароны Беларусі.

**50** г. ад заснаваньня ў 1921 г. у Вільні Таварыства Беларускае Школы.

**50** г. ад заснаваньня 30 кастрычніка ў Менску Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

**50** г. ад сьмерці 30 кастрычніка 1921 г. паэты Андрэя Зязюлі.

**40** г. ад сьмерці 29 красавіка 1931 г. заснавальніка беларускае філялёгіі моваведа акадэміка Яўхіма Карскага.

**30 г.** ад заснаваньня ў Чыкага ў 1941 г. Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады.

**25** г. ад заснаваньня 9 красавіка 1946 г. Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі.

**25** г. ад заснаваньня 9 красавіка 1946 г. у Рэгензбургу Беларускага літаратурнага згуртаваньня „Шыпшына".

**20** г. ад заснаваньня 16 сьнежня 1951 г. у Нью Ёрку Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.

**15** г. ад сьмерці 13 жніўня 1956 г. Якуба Коласа.

## СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ

У нядзелю 15 лістапада а. др. Віктар Васілеўскі з матушкай запрасілі да сябе прыяцеляў ды знаёмых з нагоды нараджэньня ўнучкі Ганны (дачушкі Сп-ва Бакуновічаў).

Запрошаныя вельмі прыемна правялі час на размовах і дыскусіях на грамадзкія тэмы, адначасова сілкуючыся пры шчодра застаўленым у суседнім пакоі стале.

На заканчэньне прысутныя прасьпявалі нованароджанай і яе Бацьком (па тэлефоне ў Дэтройт), а Дзядом і Прабабцы — асабіста „сто год" і сабралі на прапанову Сп. Даніловіча $ 18.00 на фонд „Беларуса"

Адзін з запрошаных

---

**Дня 19 лістапада сёлета закончыў свой гаротны жыцьцёвы шлях**

**Сьв. Пам. МІХАСЬ ГУЛЬКО**

Нябожчык паходзіў зь Вялейскага пав., пакінуў па сабе жонку Уршулю ў Нямеччыне.
Пахаваны на Парахвіяльным Магільніку 19 лістапада з удзелам А. Васіля Кендыша, Хору й шматлікіх знаёмых.

**Царкоўная Рада Прыходу Жыровіцкай Божай Маці, Гайлэнд Парк, Нью Джэрзі**

---

# БЕЛАРУСКІ СКАЎТЫНГ НА ЧУЖЫНЕ

**(Працяг з папярэдняга нумару)**

**II.**

З пачаткам 1948 г. лік беларускіх скаўтаў пачаў меншаць. Пачалася эміграцыя ў іншыя краі. Ізь сем'ямі ці адзінокія пачалі выяжджаць зь Нямеччыны й скаўты. І другое, горшае — пачаўся, ці, дакладней кажучы, пачалі ў скаўтынгу нутраны закалот. Пошасьць груповага разьбіцьця старэйшае беларускае эміграцыі пасьля ўтварэньня ў Міхэльсдорфе Міжлягернае Рады 27 чырвеня 1947 г. не абмінула й арганізацыі моладзі.

Паколькі Галоўнае Кіраўніцтва Беларускіх Скаўтаў у гэным часе знаходзілася ў Ватэнштэце, тут і пачалася першая дывэрсія супраць яго, а ачоліў яе лягерны камендант С. Коўш і „Стары Скаўт" Хв. Ільляшэвіч. Дэмагагічна пачалі падбухторваць моладзь да нясубардынацыі быццам за тое, што Згуртаваньне Скаўтаў называецца „Крывіцкім", а ня „Беларускім". Маўляў назоў гэты дало само Кіраўніцтва, а не пастанавіў яго І-шы Зьлёт, у якім абодвы гэтыя спадары самі прыймалі дзейны ўдзел ды аб якім яшчэ ня цэлы год таму назад Хв. Ільляшэвіч у рэдагаваным ім часапісе „Шляхам жыцьця" пісаў: „Агульны Зьлёт прайшоў вельмі добра. У цёплай брацкай атмасфэры праходзілі дыскусіі й спрэчкі", і трэба прызнаць, яно і ўзапраўды гэтак было.

Толькі не памажа ўжо ані зьмена назову арганізацыі на „Згуртаваньне Беларускіх Скаўтаў", бо на 2-ім Зьлёце, што адбыўся 8-10 жніўня 1947 г., Ватэнштэцкія сьцягі ўжо адсутнічалі, ані тое, што Камісія, спэцыяльна вызначаная гэтым-жа Зьлётам для палагоджаньня канфлікту, выкліканага паміж Ватэнштэцкімі скаўтамі й Галоўным Кіраўніцтвам, цэлы тыдзень працавала ў Ватэнштэце й знайшла развязку, зь якой было задаволенае і Галоўнае Кіраўніцтва, і Скаўты, і Хведар Ільляшэвіч. Пра гэта можна судзіць із зьмешчанай апошнім у № 8/20 за 1947 г. „Шляхам жыцьця" зацемкі „Ад Рэдакцыі": „У апошнюю хвіліну мы даведаліся, што канфлікт, узьніклы ў Беларускім Скаўтынгу, вырашаны, і мае быць скліканы надзвычайны Зьлёт ЗБСЧ. Гэтую вестку мы маем магчымасьць падаць яшчэ ў гэтым нумары, паколькі ён выходзіць з апазьненьнем".

А ў наступным нумары таго-ж „Шляхам жыцьця" чамусьці бязь ніякай прычыны ўся справа павярнулася назад. Ізноў тыя-ж напады на Галоўнае Кіраўніцтва, толькі ў яшчэ грубейшай форме, няпрызнаваньне 2-га Зьлёту, няпрызнаваньне Камісіі.

Сяньня з пэрспэктывы 25-ці год цяжка паверыць, нуўжо тыя, хто сарваў пагадненьне, наладжанае Камісіяй, ня даў магчымасьці адбыцца Надзвычайнаму Зьлёту, які меў усе дадзеныя аздаравіць дачыненьні ў Беларускім Скаўтынгу, узапраўды хацелі давесьці да таго, што яны гэтым паступкам нарабілі. На працягу паўтары год уся Ватэнштэцкая моладзь, а з часам і з Ганоўэру нізашто-ніпрашто апынілася вонках арганізацыі. Беларускія скаўты ў іншых акупацыйных зонах Заходняе Нямеччыны працавалі й жылі нармальным жыцьцём.

У днях 25-30 сакавіка 1948 г. з нагоды 40-годзьдзя Скаўтынгу Ангельскія скаўты наладзілі Зьлёт у Гамбургу з удзелам іхняга Шэфа — Скаўта лёрда Роўэлена. Былі запрошаныя й прынялі ўдзел у Зьлёце таксама Амэрыканцы, Французы, Нарвэжцы, Украінцы, Латышы, а ад Беларусаў дэлегацыя з 12-ёх скаўтаў з Галоўным Кіраўніцтвам на чале. Тэмай агульнага паказу, зарганізаванага на Зьлёце, было ў кароткіх абразкох, выконваных штораз то іншымі групамі, адлюстраваць гісторыю й дзейнасьць Скаўтынгу ад ягонага заснаваньня да сяньняшніх дзён.

І калі гісторыя дайшла да дзён пасьля Другое сусьветнае вайны і камэнтатар загаварыў аб вялікім уздыме скаўцкага руху ў Нямеччыне сярод ДП, беларускія скаўты ўдала прадставілі дзень скаўта ў лягеры ад пабудкі, гімнастыкі, палявых заняткаў, першай дапамогі скалечанаму сябру аж да вогнішча ўвечары, пры ім песьні й скокі „Лявоніхі". Узнагароду за гэта яны атрымалі на наступны дзень, калі Шэф-Скаўт, вітаючы выстраеных у шэрагу скаўтаў усіх нацыянальнасьцяў, дайшоўшы да Беларусаў, перад усімі падзякаваў і пахваліў іх за паказ. Калі-ж на заканчэньне ўрачыстасьці сярод усіх іншых і нашыя падаравалі яму на памятку альбом з вокладкамі з народным арнамантам з рознаколернай саломы і скаўцкай лілейкай, перавязаны ня менш шыкоўным беларускім поясам зь лілейкай і Пагоняй, Шэф-Скаўт дзякаваў Галоўнаму Кіраўніку ЗБСЧ і пажадаў, каб у гісторыі сусьветнага Джэмбары (скаўцкім зьлёце) Беларусы прынялі ўдзел як вольны народ разам зь іншымі народамі сьвету.

Паміма занятасьці агульнай праграмай Зьлёту, нашыя скаўты не забыліся й пра сваё сьвята — 30-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Пасьля малебну, адпраўленага ўкраінскім сьвятаром, скаўты наладзілі ўрачыстую зборку з удзелам прадстаўнікоў украінскай і латыскай моладзі. Уступнае слова Галоўнага Кіраўніка, песьня „Пагоня", а тады старэйшы скаўт з Марбургу Б. Рагуля даў кароткі нарыс гісторыі змаганьня нашага народу за вызваленьне. Песьняй „У гушчарах" закончылася ўрачыстасьць.

Не зважаючы на тое, што ў студзені 1948 г. выэмігравалі ў Ангельшчыну штандаровы А. Бута, а з ім амаль усе сябры штабу Штандару „Баварыя" — усіх 11чалавек, назначаны Галоўнай Кватэрай на іхнае месца новыя, сярод іх асабліва заступнік Штандаровага Вітаўт Кіпель, разгарнулі вельмі шырокую дзейнасьць. 30 студзеня 1948 г. выйшаў 7-мы нумар „Ганца", рыхтавалі да друку чарговы нумар часапісу „Напагатове".

26 красавіка таго-ж году 1-шы й 2-гі Сьцягі зь Міхэльсдорфу ды 6-ы Сьцяг зь Віндзішбэргердорфу прынялі ўдзел разам з Украінцамі, Латышамі, Летувісамі Палякамі, Расейцамі й Эстонцамі ў міжнародным сьвяце ў гонар патрона скаўтаў сьв. Юр'я, ладжанага Міжнароднай Скаўцкай Асацыяцыяй у Рэгензбургу.

Падняцьце сьцягоў усіх прысутных нацыянальнасьцяў і кароткая прамова старшыні Асацыяцыі, а таксама міжнацыянальныя спаборніцтвы. Хлопцы ў скаўцкім камбінаваным бегу зь перашкодамі й спраўнасьцямі ў стаўленьні палаткі, а дзяўчаты ў кухарскай спраўнасьці й бегу. Нашыя скаўты атрымалі аж 5 дыплёмаў за здабыцьцё першых, другіх і трэціх месцаў — найбольшую колькасьць з усіх нацыянальнасьцяў. А ўвечары прадстаўнік амэрыканскіх вайсковых уладаў урачыста ўручыў заслужаным сябром Асацыяцыі адзнакі з дыплёмамі за заслугі ў разьвіцьці скаўцкага руху. Беларусы атрымалі 3 адзнакі першае клясы й 12 другой. Пры супольным вогнішчы сярод іншых і нашая моладзь пяяла свае скаўцкія й патрыятычныя песьні, давала спартовыя нумары.

Іграла й здабывала перамогі скаўцкая футбольная дружына „Штурм". Гэтак, прыкладам, 18 красавіка 1948 г. „Штурм" іграў зь нямецкай дружынай „АСФ" у Міхэльсдорфе і выйграў з вынікам 6:0, 23 траўня гэнага году з жыдоўскай дружынай „Такабі" ў Каме і перамог з вынікам 1:0. Калі-ж Жыды захацелі адыграцца ў паўторным мэчы 30 траўня, нашыя выйгралі ўзноў з вынікам 3:2.

На пачатак летняга сэзону ад 28 чырвеня да 6 ліпеня 1948 г. В. Кіпель арганізуе з групай старэйшых скаўтаў зь Міхэльсдорфу, да якіх падарозе далучыліся й скаўты з Остэргофэну, паход праз Нямеччыну — з Каму да Бэрхтэсгадэн, каля 450 кілямэтраў пехатой з рукзакамі за плячыма. Калі-ж вярнуліся, ня шмат часу было адпачываць для некаторых зь іх, бо ўжо за тыдзень распачаліся ў Касэлі двухтыднёвыя Гільвэрскія курсы для скаўтмайстроў, арганізаваныя Латыскай скаўцкай арганізацыяй пад пратэктаратам Міжнароднага Бюра. Гэтыя курсы закончылі 4 кандыдаты ад ЗБСЧ: В. Кіпель, М. Тулейка, Я. Арцюх і Пагуда.

Выехаўшая ў Ангельшчыну Адзінаццатка, пераважна абсальвэнты, часткова вучні старэйшых клясаў Міхэльсдорфскае Беларускае гімназіі імя Янкі Купалы, ужо з дарогі прыслала ў Галоўную Кватэру тры нумары адбітай на рататары лістоўкі-часапісу „Наперад". Першы нумар выдадзены ў цягніку, дргуі — у пераходным лягеры ў Мюнстэры, трэйці — на шляху Мюнстэр-Амстэрдам. Вось гэта дык скаўцкі дух! У дарозе хлопцы знайшлі сабе дванаццата спадарожніка, які падзею гэтую адзначыў у „Наперад" вершам „Сустрэча". Рэгулярна выдаваным і ў Ангельшчыне ўжо нармальнага размеру часапісам „Наперад" хлопцы здабылі сабе імя ведамай „Дванаццаткі".

(Законч. ў наступным нумары)

**Першая Галоўная Кіраўнічка Беларускіх Скаўтак на Чужыне**

# КРАСА Й ДУША РОДНАЕ ЗЯМЛІ

## ПРА МАЛЯРСКУЮ ТВОРЧАСЬЦЬ ПЕТРЫ МІРАНОВІЧА



**ГАНКІ НА ДЗЬВІНЕ.** Алей. У прыватнай калекцыі

Ад сінявы далёкага кругавіду, між выгібамі рачных берагоў, маестатычна разьліваюцца водныя прасьцягі. Хмары навісьлі высака ў паднябесьсі і, водбліскам, у бяздоньнях ракі. Велічным супакоем дыхае прастора. Па люстраной паверхні вады гужам сунецца з пад гарызонту чарада плытоў. На спрадвечны дыялёг неба й водных прасьцягаў з вышыні абрывістага берагу ўзіраюцца двое хлапчанят. Гэта гэткімі часінамі ў чуткую маладую душу западаюць на ўсё жыцьцё вобразы хараства сьвету ўва ўсіх гамах іх хварбаў, ува ўсіх тонах іх адценяў.



**БУРЛАКІ НА ДЗЬВІНЕ.** Алей. 1966. У музэйных зборах Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага

Шырокая з плытамі рака гэта Дзьвіна. Адзін-жа з хлопцаў на ейным беразе, блакітныя вочы якога асабліва прагна ўпіваюцца дзівамі прыгажосьці вялікага сьвету, шмат, шмат гадоў пазьней будзе хварбамі на палотнах, ізноў і ізноў перадаваць вечна жывыя ўспаміны пра красу зямлі свайго маленства. Навет і далёка за акіянамі, на другім канцы сьвету, пераказваць будзе сваім і чужым хараство таго краю, вобразы якога калісьці запалі ў нетры чулае маладое душы.

Гэтую эпічную панараму рачнога краявіду Беларусі аглядаць можна на алейным малюнку „Ганкі на Дзьвіне". Абраз гэты знаходзіўся на ладжанай сёлета ў верасьні месяцы Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку выстаўцы. Паказаных там было колькідзесят — у бальшыні алейных і пераважна навейшых — палотнаў. Аўтар усіх іх ведамы мастак Пётра Міpановіч.

Паходзіць Пётра Міpановіч з паўночна-заходняга кута Беларусі, з тае часткі Наддзьвіньня, што ад Першае Сусьветнае вайны належала да Латвійскае рэспублікі. Сярэднюю асьвету здабываў ён у Дзьвінскай беларускай гімназіі. Там малады мастак і праявіў свае малярскія здольнасьці, калі рабіў першыя замалёўкі краявідаў ды выконваў дэкарацыі для гімназіяльных драматычных пастановак. Пасьля гімназіі паступіў ён у рыскую Акадэмію Мастацтва, якую закончыў у 1936-м годзе з дыплёмам вольнага ў галіне малярства мастака. Студыяваў Пётра Міpановіч у часе апошняе вайны й на Акадэміі Мастацтва ў Вене. Ад гадоў-жа дваццаці ён зь сям'ёй жыве на амэрыканскай зямлі, у Нью Ёрку.

Калі гадоў сорак таму беларускае грамадзтва Дзьвінску выпраўляла таленавітага гадунца свае гімназіі да Рыгі на вышэйшыя мастацкія студыі, яно мела надзею, што пасьля заканчэньня акадэміі ён у галіне мастацтва будзе годным рэпрэзэнтантам свайго народу. І ў гэтым яно не памылілася. Гадоў у акадэміі мастак не змарнаваў, ужо ў часе навукі стварыў ён колькі вартасных мастацкіх палотнаў. Завяршэньнем-жа студыяў была дыплёмная праца зь сюжэтам з жыцьця беларускае вёскі „У сялянскай хаце".

І ў акадэміі, і па яе заканчэньні, за галоўнае заданьне свае творчасьці мастак ставіў адлюстраваньне вобразаў роднае зямлі, яе прыроды й чалавека. Дзеля гэтага ў сваім творстве Пётра Міpановіч і застаўся пры рэалістычным прынцыпе. Бачанае, адчутае й перажытае мастак на сваіх палотнах не нагінае да канонаў тае ці іншае, якраз моднае, мастацкае схэмы, не дэфармуе, а дае ў натуральным ладзе іх хвормаў, гармоніі колераў.

Жанры, у якіх Мінаровічаў талент найяскравей праявіўся, гэта пэйзажы, бытавыя замалёўкі, патрэты, натурморты. У пэйзажных творах мастака яскравы адбітак краявідаў паледавіковае марэннае фармацыі Наддзьвіньня із сталёвасінімі, раськінутымі між узгор'ямі й лясамі, шыбінамі азёраў, з хвалістаю лініяй кругавіду на гарызонце, з блакітнаю смугою шырокае Дзьвіны.

І на малюнку „Над Дзьвіною" тая самая задума бязьмежнае рачное прасторы, дзе зь сінявою нябёсаў сваю спрадвечную гутарку вядуць воды Дзьвіны. Сялянскі хлопец, відавочна сам мастак, поіць, на кані сам, коняў у Дзьвіне. І тут кволы яшчэ, малы чалавек у канфрантацыі з тайнаю вечнага быту, зь веліччу красы сусьвету. На палатне іншым,, „Даўгое возера", шэра блакітнае люстра возера з затокамі й рукавамі, зь лесам пароснімі ды ў васеньнім раскошным уборы хварбаў прыбярэжнымі ўзгор'ямі. Падобнае, у гамах хварбаў розных пораў дня ды году, адлюстраваньне вечна зьменнае красы зямлі й на іншых малюнках мастака, на якіх краявіды ці тае самае роднае Дзьвіншчыны, ці аўстрыйскія, ці, апошнімі гадамі, амэрыканскія.

Палотны бытавых кампазыцыяў, у цэнтры якіх ня прырода й краявід, а чалавек — найчасьцей сялянская сям'я ў працы ці адпачынку — уражваюць гледача найперш сваёй майстэрскай перадачай сцэнаў жыцьця й працы селяніна Наддзьвіньня ў свомых толькі для Беларусі калярытных рысах ды бытавых дэталях.

На дыплёмным палатне „У сялянскай хаце" ў натуральным і кампазыцыйна адначасна дамэтным ладзе разьмешчаныя людзі, прадметы, хатняе абсталяваньне. Сьветлавалосы хлопчык сьнедае за сталом. Побач стаіць маці з збанком малака ў руцэ. Пад акном прысеў на ўслоне, адпачывае, мужчына. На зэдліку каля печы прыкорчылася над кошыкам, абірае бульбу, кабеціна. Усё гэтак тыповае для жыцьця беларускае вёскі, што абраз ня толькі мастацкае дасягненьне, але й яскравы гістарычны дакумэнт жыцьця й быту селяніна беларускага Наддзьвіньня першае палавіны нашага стагодзьдзя.

„Сяўба" пераносіць нас з хаты земляроба на ягоную ніву ў вельмі для селяніна важную пару. Гаспадарскай паважнай ступой, зь сяўнёй, крочыць па ральлі сейбіт, сыпле ў узрыхленую зямлю зерне. За ім дзяўчынка, ягоная дачушка, крыху-ж далей — хлопец барануе поле. Вычуваецца ўрачыстая павага часіны тае важнае земляробскае дзейнасьці, ад якое найперш залежыць хлеб сялянскай сям'і.

Адрозная сваім настроем „Віхура на сенажаці". У час сенаваньня з шалёным імпатам урываецца на сенажаць вяшчун навальніцы — вецер. Сялянская сям'я, усіх чэцьвера, у несаступлівым ходаньні зь віхураю, што тузае вопратку, рве з пад грабель сена, верне копы, гне дрэвы, гоне па небе калматыя хмары. Гаспадар завіхаецца з усіх сілаў, пласьціць сена, каб уськінуць яго барджджэй на стаячы побач воз. Адна жанчына змагаецца зь ветрам, вершыць капу, другая пасьпешна заграбае. Хлопец на возе трымае, прыціскае сена, каб не зьвярнула яго віхура. На малюнку заяцяты бой з стыхіяй прыроды, і глядач пэўны, што станаўкая навага працавітае сям'і пераможа.

„Віхуры на сенажаці", дзе ўсё ў дынамічным руху, сваім статычным супакоем дыямэтральна супроцьлеглая сцэна малюнку „Першая зіма на хутары". На сьнегам засланым хвалістым краявідзе Дзьвіншчыны раськінутыя пабудовы новых хутароў. Перад намі панадворак хутарнога навасельля, з гумном у лагу на далейшым, а хлявом на ўзгорку на бліжэйшым пляне. Калёсаў няма яшчэ дзе й прыхінуць — прыцярушаныя сьнегам яны зімуюць на панадворку. Стаяць дзьве ў гутарцы суседкі — адна з каромыслам на плячох ды вёдрамі на іх, другая з лубкай пад пахай. Загледжаная ў далечу краявіду перад раскрытымі дзьвярыма хлява стаіць, жуе спакойна жваку, карова. Тут адчуваньне тае абсалютнае цішыні, што здараецца толькі сьнежнаю зімою, калі „аж у вушшу зьвініць".

„Бурлакі на Дзьвіне", як і „Віхура на сенажаці", паказвае чалавека пры цяжкой працы. Ды праяўляецца яна цяпер не шалёным тэмпам ходаньня зь імпатам віхуры, а ў напружаньні ўсіх да рэшты людзкіх сілаў. Зь перапаясанымі праз грудзі канатамі берагам ракі крочаць, пад ваду вялікую барку цягнуць два бурлакі. У сваім напружаньні яны зьгінаюцца аж да зямлі, відаць, што выбіваюцца з апошніх сваіх сілаў. Тоны хварбаў неба, ракі, рачных берагоў цяпер панурыя, суворыя, як суворае й цяжкое жыцьцё людзей, якім хлеб здабываць даводзіцца гэткім непасільным натугам.

Блізу ўсе краявідна-бытавога жанру малюнкі Міpановіча ў сваіх сюжэтах аўтабіяграфічныя. На іх добра знаныя мастаку мясьціны, блізкія й дарагія яму людзі — бацькі, родныя, сваякі, суседзі. Не зважаючы на гэта, псыхалягічна настраёвая танацыя Міpановічавых палотнаў далёкая ад нейкае расчуленасьці ці сьлязьлівага сэнтымэнталізму. Кранаць „да сьлёзаў" гледача таннымі пачуцьцёвымі эфэктамі ці адмыслова падабранымі для гэтага тэмамі мастак ня мае намеру. У сваім і сьветаадчуваньні, і мастацкім выражэньні Міpановіч ня лірык, а эпік.



**ПЕТРА КРЭЧЭЎСКІ.** Алей. 1966. У музэйных зборах Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага

Ня грэшаць Міpановічавы творы й штучнай позай ды тым тэатральным патасам, што свомы малюнкам шмат якіх мастакоў сучаснага савецкага „соцрэалізму". Прадукцыяй прапагандных агітак мастак не займаецца, ягоныя палотны не ілюстрацыі нейкіх казённых догмаў. Міpановіч нікому не навязвае ні сваіх, ні нейкіх чужых паглядаў, нікога не агітуе. У ягоных творах людзі, прырода, зямля гэткія, якімі ён іх бачыў, адчуваў і перажываў. Мастак хварбамі на палотнах толькі дзеліцца з гледачом перажытай жыцьцёвай праўдай, сваім мастацкім дазнаньнем. У гэтай жыцьцёвай беспасярэднясьці ды незалежнасьці вольнага таленту асаблівая каштоўнасьць мастацкае творчасьці Пётры Міpановіча.

Аптымізм, вера ў жыцьцё, у чалавека, у ягоную працу й будучыню, асноўная нота мастацкага сьветаадчуваньня Пётры Міpановіча. Небагатае ў сваім сьціплым абсталяваньні нутро сялянскае хаты, але ў ёй адчуваецца цяпло сямейнае ўтульнасьці. Бедны й няўладкаваны яшчэ панадворак у першую зіму на хутары, ды й тут зьвініць нотка веры, што налета будзе лепш. Ды вычуваецца нейкая цяпліня. Навет і могілкі ў Прыдруйску з каплічкаю сярод зяленіва дрэваў маляваньня бяз ноты суму ці пэсымізму. На малюнку толькі ўрачыстая задумная павага таго месца, дзе вечным сном спачываюць продкі.

Што асабліва ўражае беларускага гледача на пэйзажных і бытавых палотнах Пётры Міpановіча, гэта іхняя сюжэтная, калярыстычная ды настраёва-псыхалягічная беларуская „наскасьць". Хопіць зірнуць на малюнкі, каб ведаць, што тут сцэны жыцьця беларускага народу й што маляваў іх мастак, які сам на гэтай зямлі рос ды добра знае яе прыроду, чалавека, ягоны быт. Вось гэтым, што малюнкі адбіваюць ня толькі гамы хварбаў і красу, але й „душу" краю, яны й кранаюць сьведамасьць ды пачуцьці ягоных суродзічаў. Дзеля гэтага й малярская творчасьць Пётры Міpановіча мае поўнае права на назоў „беларускага мастацтва" ня толькі дзеля самога факту паходжаньня мастака зь беларускага Наддзьвіньня, але й сваім нацыянальным сюжэтным, псыхалягічным ды ідэйным зьместам.

Калі чуткаму заўсёды на красу мастаку ня чужым было й хараство Аўстрыі, і прыгажосьць краявідаў Амэрыкі, ды Міpановіч і на эміграцыі намагаецца пераказаць усё-ж найперш вобразы красы роднае зямлі, хоць, чверць стагодзьдзя пасьля расстаньня зь ёю, гэта ня гэтак проста й незаўсёды лёгка. Хіба дзеля гэтага апошнім часам мастак сваю ўвагу кіруе больш на патрэты ды натурморты. Праўда, ня чужой гэтая тэматыка была яму й на бацькаўшчыне. Яшчэ зь міжваенных і ваенных гадоў ведамыя патрэты ягонага пэндзля маці, бацькі, сына, патрэт дзяўчыны-жняі, патрэты беларускіх дзеячоў Дзьвіншчыны — Сяргея Сахарава, Кастуся Езавітава, ягонае жонкі Галіны. У Нью Ёрку ўжо паўсталі алейныя або пастэльныя патрэты доктара Скарыны, канцлера Льва Сапегі, Кастуся Каліноўскага, Янкі Купалы, Пётры Крэчэўскага, таго самага Езавітава ды шмат іншых.

Падыход мастака й да патрэтаў рэалістычны. Ці раз асоба патрэту дадзеная на гістарычна сымбалічным фоне. Кастусь Каліноўскі мае за сабой залітае полымем пажараў неба. За доктарам Скарынам на адным боку сьветла лунае полацкая Сафія, па другім узносіцца замак ды абаронныя муры старажытнае Вільні — сымбалі двух апорных пунктаў Скарынавай біяграфіі.



**НАТУРМОРТ.** Алей. 1962. У прыватнай калекцыі

Паважныя, асабліва апошнімі гадамі, дасягненьні мастака й у галіне натурмортаў. На сьценах памешканьняў беларускіх эмігрантаў можна часта пабачыць Міpановічавы кампазыцыі „мёртвай натуры"

(Заканчэньне на 6-ай бачыне)

